*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 41(426)** **13 КАСТРЫЧНІКА 1999 г.**

## Рэспубліканская рада ТБМ

У нядзелю 10 кастрычніка ў Менску прайшла Рэспубліканская рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, якая мела на павестцы дня наступныя пытанні:

1. Аб перарэгістрацыі ТБМ і рэгіянальных структур (даклад А. Трусава).
2. Зацвярджэнне складу камісій ТБМ і іх кіраўнікоў.
3. Вызначэнне памераў сяброўскіхз складак на 2000 год.
4. Абмеркаванне ўзору білета сябра ТБМ.
5. Зацверджанне складу ініцыятыўнай групы па складанні Статута і Палажэння аб дзейнасці Беларускага нацыянальнага універсітэта.
6. Абмеркаванне "Заўваг і прапаноў па праграме беларускай мовы ў ВНУ", падрыхтаванай кафедрай беларускай і рускай моў БДПА.
7. Рознае:

- заява -- "Спыніла існаванне яшчэ адна беларуска-моўная газета";
- віншаванні Іосіфа Сярэдзіча, Раісы Жук-Грышкевіч, Ядвігі Грыгаровіч;
- рэцэнзія на распрацоўку "Заўваг і прапаноў па праграме беларускай мовы ў ВНУ".

### Пастанова
### Рэспубліканскай рады ТБМ імя Францішка Скарыны

Рэспубліканская рада ТБМ даручае Сакратарыяту ТБМ да 1 снежня 1999 года распрацаваць і зацвердзіць два ўзоры білета сябра ТБМ - з фотаздымкам і без фотаздымка. Старыя ўзоры білетаў трымаюць сваю сілу.

### Пастанова
### Рэспубліканскай рады ТБМ імя Францішка Скарыны аб памерах складак сяброў ТБМ:

1. Для грамадзян Беларусі:
а) для тых хто працуе - 200.000 руб на год;
б) для беспрацоўных, студэнтаў, пенсіянераў - 50. 000 руб на год;
в) навучэнцаў - 20.000 на год.
Пастанова ўводзіцца ў дзеянне з 1. 01. 2000 года.

## ПА СЛОВАХ НОВАГА СТАРШЫНІ МЕНСКАЙ ГАРАДСКОЙ СТРУКТУРЫ ТБМ, ПРАЗ ГОД АРГАНІЗАЦЫЯ ПАВІННА СТАЦЬ БОЛЬШ ШМАТЛІКАЙ І ЛЕПШ АРГАНІЗАВАНАЙ

26 верасня ў Менску адбылася чарговая канферэнцыя Менскай гарадской арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ). У ёй прынялі ўдзел 63 дэлегаты, якія прадстаўлялі 1 585 членаў арганізацыі ад 93 яе першасных суполак, што дзейнічаюць ва ўсіх дзевяці раёнах сталіцы.

Дэлегаты канферэнцыі абмеркавалі справаздачны даклад старшыні арганізацыі, прафесара Аляксея Саламонава і прызналі яе дзейнасць за справаздачны перыяд – з 20 сакавіка 1999 года – задавальняльнай.

Разам з тым, у адрас кіраўніцтва Менскай арганізацыі Таварыства прагучала шмат крытычных заўваг. У прыватнасці, кіраўнік справамі ТБМ Сяржук Кручкоў нагадаў аб неабходнасці строгага выканання ўсімі раённымі арганізацыямі сталічнага таварыства статута ТБМ, іх своечасовай рэгістрацыі, здачы спісаў і ахвяраванняў. Старшыня Першамайскай раённай арганізацыі Алег Шагулін выступіў з прапановай правесці разам з кіраўнікамі дзяржаўных установаў работу па вывучэнні беларускай мовы і ўжыванні яе ў службовым справаводстве.

Канферэнцыя пастанавіла патрабаваць ад усіх сяброў і структур сталічнай арганізацыі ТБМ строгага выканання Статута Таварыства і прапанавала Радзе да 1 снежня правесці работу па ўпарадкаванню сваіх структур.

У інтэрвію карэспандэнту БелаПАН выбраная старшынёй рады Менскай гарадской арганізацыі ТБМ Леанарда Міхіна выказала надзею на тое, што праз год арганізацыя стане больш шматлікай, арганізаванай. Па яе словах, у гэтае непалітычнае аб'яднанне павінны ўступіць у тым ліку і бацькі дзяцей, што навучаюцца ў беларускамоўных класах, а таксама ўсе тыя, хто з'яўляецца прыхільнікам роднай мовы. "Наша арганізацыя павінна прыйсці ў "трэці сектар" і актыўна працаваць у ім, каб людзі змаглі рэалізавацца, а арганізацыя – атрымаць дадатковую грашовую падтрымку", -- лічыць Л.Мухіна.

Намеснік старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч падкрэсліла, што вынікі прайшоўшай канферэнцыі яе радуюць, таму што з'явілася магчымасць удакладніць работу сталічнай арганізацыі ТБМ, што вельмі важна ў цяперашніх цяжкіх умовах. Яна выразіла задаволенасць тым, што "на канферэнцыі было знойдзена ўзаемапаразуменне па вырашэнні шэрагу цяжкіх праблем, а гэта, у сваю чаргу, дазволіць ажыццяўляць дзейнасць Менскай гарадской, а значыць і рэспубліканскай арганізацыі ТБМ".

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

## НА РАЗВАЛ У БНФ

**Віншчыць ад радасці з экрана**
**Сівой кабылы меншы брат,**
**Аналізуе апантана**
**Апошні ў БНФ расклад:**

**Ура! Нарэшце падзялілі**
**І падарвалі Фронт знутры,**
**Такую глыбу развалілі,**
**Удача, што ні гавары.**

**Пазняк растраціў на замежжы**
**Мінулы свой аўтарытэт,**
**І ад яго ўжо не залежыць**
**Нічога, гэта не сакрэт.**

**А маладыя... Што ж ім трэба**
**Яшчэ дайсці да тых вышынь,**
**Ім да Зянона, як да неба,**
**І год патрэбен не адзін.**

**Таму спісаць на злом патрэбна**
**"Нацыянальных змагароў",**
**Што так бясслаўна і ганебна**
**Распаліся, як штабель дроў...**

**Ну што ж, хай цешыцца з экрана**
**Сівой кабылы меншы брат,**
**Але смяяцца ці не рана,**
**Ці справядлівы ў вас расклад?**

**Фронт не распаўся і ніколі**
**Не разваліць яго нічым,**
**Бо Фронт -- нам сцежачка да волі,**
**Бо Фронт -- нам знічачка ў начы.**

**Мы зменім сродкі, зменім імя,**
**Мы зменім тых, хто нас вядзе,**
**Ды будзьце пэўныя ў адзіным:**
**Мы не падзенемся нідзе.**

**Мы, Фронт -- часціначка народа,**
**Мы, Фронт -- крывіначка яго,**
**Мы, Фронт -- кавалачак свабоды**
**Для краю роднага свайго.**

**Мы не пакінем сваіх параў,**
**І не бярыце нас на понт,**
**Заўсёды грознай божай карай**
**Вісець над вамі будзе Фронт.**

**Вы спаць і сніць павінны, злыдні,**
**Што вам канец рыхтуе Фронт,**
**І хай не сёння, не на тыдні,**
**Хай цераз месяц, цераз год...**

**А покуль радуйцеся сказам,**
**Што развалілі нас з-за плеч.**
**Мы ёсць, былі і будзем разам**
**І будзем вам, як востры меч.**

*Станіслаў Суднік.*

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы паведамляем вам вынікі падпісной кампаніі на чацвёрты квартал 1999 года. Не звяртайце вялікай увагі на тое, што падпіска ўпала. Рэальна справа выглядае так, што ў мінулым квартале 850 асобнікаў былі падпісаны з дапамогай Беларускай Асацыяцыі Журналістаў і за кошт БАЖ. Гэты квартал такой падтрымкі не было, але падзення падпіскі на 850 асобнікаў не адбылося. Жывая падпіска грамадзян вырасла. Асабліва відзён рост у Менску і Гарадзенскай вобласці. Мы спадзяёмся, што кола нашых чытачоў хоць і невялікімі тэмпамі, але будзе расці з квартала ў квартал.

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Віцебская вобласць** | | |
| Бешанковічы р.в. | 1 | 1 |
| Браслаў р.в. | 1 | 21 |
| Віцебск гор. | 25 | 26 |
| Віцебск РВПС | 6 | 2 |
| Верхнедзвінск р.в | 5 | 2 |
| Глыбокае р.в. | 6 | 8 |
| Гарадок р.в. | 48 | 30 |
| Докшыцы р.в. | 8 | 2 |
| Дуброўня р.в. | 2 | 2 |
| Круляўшчызна | 1 | 2 |
| Лёзна р.в. | 1 | 20 |
| Лепель р.в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 4 | 2 |
| Наваполацк гор. | 9 | 11 |
| Ворша гор. | 6 | 7 |
| Полацк гор. | 122 | 20 |
| Паставы р.в. | 2 | 3 |
| Расоны р.в. | 4 | - |
| Сянно р.в. | 1 | 1 |
| Талочын р.в. | 2 | 2 |
| Ушачы р.в. | 1 | 1 |
| Чашнікі р.в. | - | 5 |
| Шаркоўшчына р.в. | - | 39 |
| Шуміліна р.в. | - | 13 |
| **Усяго:** | **256** | **221** |
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 25 | 19 |
| Бяроза р.в. | 5 | 4 |
| Белаазёрск р.в. | 2 | - |
| Бярэсце гор. | 26 | 14 |
| Ганцавічы р.в. | - | 1 |
| Драгічын р.в. | 1 | - |
| Жабінка р.в. | 1 | - |
| Іванава р.в. | 24 | 1 |
| Івацэвічы р.в. | 3 | 2 |
| Камянец р.в. | 53 | 8 |
| Кобрын гор. | 22 | 14 |
| Лунінец гор. | 4 | 1 |
| Ляхавічы р.в. | 3 | 2 |
| Маларыта р.в. | 3 | 1 |
| Пінск гор. | 73 | 13 |
| Пружаны р.в. | 2 | 1 |
| Столін р.в. | 5 | 4 |
| **Усяго:** | **252** | **85** |
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 3 | 1 |
| Брагін р.в. | 3 | 1 |
| Ветка р.в. | 4 | 2 |
| Гомель гор. | 51 | 70 |
| Гомель РВПС | 1 | 1 |
| Добруш р.в. | 2 | 2 |
| Ельск р.в. | 1 | - |
| Жыткавічы р.в. | 15 | 3 |
| Жлобін гор. | 51 | 7 |
| Калінкавічы гор. | 5 | 2 |
| Карма р.в. | 2 | 1 |
| Лельчыцы р.в. | 18 | - |
| Лоеў р.в. | 2 | 2 |
| Мазыр гор. | 31 | 2 |
| Акцябарскі р.в. | 3 | - |
| Нароўля р.в. | - | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 3 | - |
| Рэчыца гор. | 16 | 5 |
| Рагачоў гор. | 3 | 1 |
| Светлагорск гор. | 38 | 2 |
| Хойнікі р.в. | - | 2 |
| Чачэрск р.в. | 2 | 1 |
| **Усяго:** | **254** | **106** |

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Гарадзенская вобласць** | | |
| Бераставіца | 26 | 1 |
| Ваўкавыск гор. | 12 | 15 |
| Воранава р.в. | 4 | 5 |
| Горадня гор. | 58 | 154 |
| Горадня РВПС | 4 | 44 |
| Дзятлава р.в. | 11 | 18 |
| Зэльва р.в. | 21 | 4 |
| Іўе р.в. | - | 6 |
| Карэлічы р.в. | 3 | 4 |
| Масты р.в. | 5 | 31 |
| Наваградак гор. | 8 | 10 |
| Астравец р.в. | 1 | 3 |
| Ашмяны р.в.. | 7 | 11 |
| Смаргонь гор. | 6 | 5 |
| Слонім гор. | 12 | 23 |
| Свіслач р.в. | - | 4 |
| Шчучын р.в. | 5 | 4 |
| Ліда | 153 | 76 |
| **Усяго:** | **336** | **418** |
| **Менская вобласць** | | |
| Беразіно р.в. | 5 | 3 |
| Барысаў гор. | 8 | 6 |
| Вілейка гор. | 7 | 4 |
| Валожын гор. | 11 | 7 |
| Дзяржынск р.в. | 3 | 3 |
| Жодзіна гор. | 8 | 24 |
| Клецк р.в. | 2 | 43 |
| Крупкі р.в. | 1 | 1 |
| Капыль р.в. | 2 | 2 |
| Лагойск р.в. | 11 | 9 |
| Любань р.в. | 4 | 6 |
| Менск гор. | 499 | 601 |
| Менск РВПС | 14 | 10 |
| Маладэчна гор. | 35 | 30 |
| Мядзель | 11 | 7 |
| Пухавічы РВПС | 11 | 10 |
| Нясвіж р.в. | 23 | 2 |
| Смалявічы р.в. | 2 | - |
| Слуцк гор. | 12 | 9 |
| Салігорск гор. | 20 | 11 |
| Ст.Дарогі р.в. | 2 | - |
| Стоўбцы р.в. | 5 | 29 |
| Узда р.в. | 2 | - |
| Чэрвень р.в. | 5 | 12 |
| Фаніпаль | - | 2 |
| **Усяго:** | **705** | **831** |
| **Магілёўская вобласць** | | |
| Бабруйск гор. | 14 | 22 |
| Бабруйск РВПС | 29 | - |
| Бялынічы р.в. | 1 | - |
| Быхаў р.в. | 1 | - |
| Глуск р.в. | 1 | - |
| Горкі гор. | 11 | 11 |
| Дрыбін р.в. | 1 | - |
| Кіраўск р.в. | 2 | - |
| Клічаў р.в. | 1 | - |
| Краснаполле р.в. | 1 | - |
| Крычаў | 1 | - |
| Клімавічы р.в. | 5 | 5 |
| Касцюковічы р.в. | 15 | 14 |
| Круглае р.в. | 14 | 13 |
| Мсціслаў р.в. | 26 | - |
| Магілёў гор. | 19 | 22 |
| Магілёў РВПС | 34 | 3 |
| Асіповічы гор. | 10 | 8 |
| Слаўгарад р.в. | 2 | 1 |
| Хоцімск р.в. | 1 | - |
| Чэрыкаў р.в. | 1 | - |
| Чавусы р.в. | 1 | - |
| Шклоў р.в. | 7 | 14 |
| **Усяго:** | **254** | **113** |
| **Усяго па краіне** | **2059** | **1774** |



# Рок за Беларусь, улады супраць рока

*20 верасня ў памяшканні БНФ адбылася прэсканферэнцыя Маладога Фронта. Падчас гэтай імпрэзы старшыня Павел Северынец адказваў на пытанні прысутных, а таксама распавёў пра дзейнасць і планы ачоленайай ім арганізацыі. Некаторыя фрагменты прэсканферэнцыі могуць быць цікавымі для чытачоў "Нашага слова".*

***Н.К. Раскажыце, калі ласка, пра структуры Маладога Фронта і іх дзейнасць.***

-- Самы страшны вораг Беларусі – гэта цемра і бездухоўнасць, адзін з нашых прыярытэтаў -- гэта еўрапейская хрысціянская мараль. Малады Фронт – фронт пераменаў і адраджэння.

У Маладым Фронце існуюць сатэлітныя арганізацыі, такія, як асацыяцыя маладых прадпрымальнікаў, камп'ютаровае мастацтва, эўрапейскі шлях, беларускія маладыя кансерватары, беларуская музычная альтэрнатыва, маладое адраджэнне. З іх тром апошнім улады недаюць дазвол на рэгістрацыю.

*Перад прысутнымі выступіў прадстаўнік маладых кансерватараў Андрэй Пятроў. Ён распавёў пра дзейнасць і планы гэтай арганізацыі, а таксама паведаміў, што з 30 верасня па 3 кастрычніка ў Беларусі будуць знаходзіцца кіраўнікі маладых кансерватараў з Вялікабрытаніі, Даніі, Ісландыі, Аўстраліі. Яны будуць праводзіць семінары, сустрэчы і інш.*

*Далей Павел Северынец распавёў, што ўжо з'явілася газета для новых беларусаў. Зараз яе можна ўбачыць на сайце Маладога Фронта http://www.visit.to/mfzont*

*Электронная пошта: mfront @ Visit.to*

*У бліжэйшы час плануецца яе з'яўлене ў друкаваным выглядзе.*

*Таксама прагучала інфармацыя, што Яўген Асінскі, які адседзеў 1,5 месяца на Валадарцы за ўдар міліцыянту пад зад, на выхадзе з турмы ўступіў у Малады Фронт.*

*У выступленні прадстаўніка Згуртавання беларускай моладзі "Эўрапейскі шлях" Аляксея Галіча прагучала інфармацыя пра рух у абарону архітэктурных помнікаў на "Нямізе". Адным з пядаўніх дзеянняў "Эўрапескага шляху" быў збор подпісаў вядомых людзей Беларусі пад зваротам у абарону архітэктурнай спадчыны Менска і надрукаванне яго ў сродках масавай інфармацыі.*

*Аляксей адзначыў, што асноўнай прычынай гэтага варварства з'яўляецца карумпаванасць улады. Відавочна, зазначыў Аляксей, што дазвол на знішчэнне помнікаў архітэктуры даваўся чыноўнікамі за хабар.*

***Н.К. Якія мэты планаванай Маладым Фронтам акцыі "Сусветны рок – за Беларусь"!***

-- Толькі за тры летнія месяцы 1999 г. улады забаранілі ці сарвалі больш за 10 рок-канцэртаў на ўсёй Беларусі.

**19 чэрвеня** – рок-акцыя "Моладзь за Беларусь!", якую Малады Фронт і Беларуская Музычная Альтэрнатыва збіраліся правесці ў Менску, была блакаваная менскімі чыноўнікамі.

**11 ліпеня** – рок-канцэрт "Моладзь супраць фашызму" быў сарваны ўладамі на вачах у некалькі тысячаў гледачоў.

**27 ліпеня** – улады г. Маладэчна забаранілі правядзенне канцэрту, абвінаваціўшы моладзь у спробах арганізаваць беспарадкі (?!!).

**28 ліпеня** – забаронены канцэрт у Менску.

**1 жніўня** – чарговая забарона правесці рок-канцэрт у сталічным парку 50-годдзя Кастрычніка.

**27 жніўня**, калі дазвол на правядзеньне мерапрыемства ўсё-такі ўдалося атрымаць у маладэчанскім гарвыканкаме, падчас канцэрту міліцыя распачала масавае паляванне на моладзь, затрымлівала музыкантаў, і ўрэшце, арыштавала арганізатараў.

За апошні год былі беспадстаўна забароненыя ці сарваныя рок-канцэрты ў Горадні, Лідзе і Маладэчне (па некалькі разоў), а таксама ў Бярэсці, Наваполацку, Нясвіжы, Слуцку Магілёве. Беларускі рок не пускаюць на радыё і цэнзуруюць у эфіры TV. Улады закрываюць незалежныя радыёстанцыі (FM101.2, "Беларуская маладзёжная"), музычныя праекты ("Легіён") і рок-клубы ("Рэзервацыя"); у самым цэнтры сталіцы на нефармальную моладзь праводзяцца самыя сапраўдныя аблавы.

Нянавісць дыктатуры супраць беларускага року, супраць беларускай моладзі, супраць усяго беларускага і еўрапейскага прымае характар расправы. У сувязі з гэтым МАЛАДЫ ФРОНТ распачынае міжнародную кампанію.. "СУСВЕТНЫ РОК – ЗА БЕЛАРУСЬ !"

Мы звернемся да найвядомейшых рок-гуртоў свету, такіх як **Metallica, U-2, Rollinq Stones, Pink Floyd,Off sprind** і іншых з заклікам: падтрымайце Беларусь ! Падтрымайце Свабоду! Падтрымайце РОК!

Кожнае слова вашае падтрымкі, кожны ваш зварот ці заява – гэта ўдар па аўтарытарным рэжыме, гэта крок да чаканае волі, да сапраўднае Беларусі.

*Слова ўзяў саліст НРМ Лявон Вольскі, ён адзначыў: " За мяжой мы зараз выступаем больш, чым на радзіме, гэта абсалютна ненармальнае становішча. Калі нам дапаможа сусветная грамадскасць, чыноўнікам будзе цяжэй нам адмаўляць".*

***Н.К. Пры звароце да сусветнай супольнасці ці будзеце вы завастраць увагу на пытаннях дыскрымінацыі беларускай мовы.***

-- Пытанні мовы заўсёды былі адным з нашых прыярытэтных напрамкаў. Мы не толькі будзем ставіць гэта пытанне, але пастараемся паказаць беларускую мову і што за яе варта змагацца.

***Алесь Гурыновіч.***

# Патрабуецца падтрымка

Непалітычная грамадская арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выступае ў абарону роднай мовы і нацыянальнай культуры, з'яўляецца паслядоўным прапагандыстам усяго беларускага. ТБМ дапамагае бацькам абараніць сваё права выхоўваць і навучаць дзяцей у беларускамоўных садках і школах, дамагаецца адкрыцця Беларускага нацыянальнага універсітэта, стварае і рэалізуе моладзевыя культурна-асветніцкія праграмы, выдае газету "Наша слова".

Падтрымка ТБМ – справа гонару кожнага свядомага грамадзяніна Беларусі.

Наш разліковы рахунак **№ 3015212330014** у Гардырэкцыі Белбізнэсбанка, код **764**.

Прыватныя асобы могуць пералічыць грошы праз любое аддзяленне ашчадбанка "Беларусбанк" з прыпіскай: ***ахвяраванні на дзейнасць ТБМ***.

**Сакратарыят ТБМ.**

# Кастрычніцкі каляндар

**2.10.** 180 гадоў са дня нараджэння **Аляксандра Незабытоўскага** (1819 –1849), беларускага і польскага пісьменніка, філосафа, гісторыка.

**11.10.** 90 гадоў з дня нараджэння **Зінаіды Бандарынай**, беларускай пісьменніцы.

Нарадзілася ў Горадні. Выдала аповесць "Шуміць тайга (часопіс "Маладняк", 1929), Ой, рана на Івана" (1956), зборнік апавяданняў для дзяцей "Лясныя госці" (1960).

Памерла 16.04. 1959г.

**13.10.99г**. 100 гадоў з дня нараджэння **М.І. Жыркевіча** (1899-1984), педагога, аўтара школьных падручнікаў на беларускай мове.

**14.10 99г.** 100 гадоў з дня нараджэння **А. Бабарэкі** (1899 – 1938), беларускага пісьменніка і крытыка.

**23.10.99г.** 165 гадоў з дня нараджэння (1934) **Яна Ваньковіча**, аднаго з кіраўнікоў вызвольнага паўстання 1863-1864гг.

**25 10.99г.** 115 гадоў з дня нараджэння (1884г.) **Францішка Грышевіча**, беларускага грамадска-рэлігійнага дзеяча, кіраўніка Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі.

**30.10.99г.** 420 гадоў з дня надання (1579) езуіцкаму калегіўму ў Вільні сатуса Акадэміі (Віленскі універсітэт).

**30.10** Дзень палітзняволеных (Дзень памяці ўсіх ахвяр рэпрэсій).

# Адам Бабарэка

**(да стагоддзя з дня нараджэння)**

Адам Антонавіч Бабарэка нарадзіўся напрыканцы дзевятнаццатага стагоддзя на вялікае праваслаўнае свята Пакровы: 14 кастрычніка 1899 года ў вёсцы Слабада – Кучынка Капыльскага раёна на Меншчыне, у сям'і беззямельных сялян. Жылося цяжка, ды неўзабаве памёр бацька ад сухотаў.

Адам быў хлопец здольны, вучыўся добра і, як сірату, яго прынялі ў Слуцкую бурсу. А ў 1918-м годзе закончыў Менскую духоўную семінарыю ды распачаў настаўнічаць на Случчыне.

У часы так званай белапольскай акупацыі ўдзельнічаў у падпольнай барацьбе, за што ў 1920 годзе трапіў у астрог. Па ўспамінах яго вучня Станіслава Шушкевіча, Бабарэку ў турме катавалі. Пасля прыхода бальшавікоў працаваў на Случчыне настаўнікам, быў членам рэўкома Пукаўскай воласці ды загадваў валасным аддзелам народнай асветы. У гэты час арганізаваў гурткі вясковай моладзі, наладжваў літаратурныя вечарыны, аматарскія спектаклі. У 1921-22-г. служыў у войску. З 1922 па 1927 год вучыўся на этнолага-лінгвістычным аддзяленні педфака БДУ. Адначасова з вучобаю працаваў у рэдакцыі газеты "Савецкая Беларусь", выкладаў беларускую мову і літаратуру ў менскіх школах. У 1923 годзе выступіў адным з заснавальнікаў літаратурнага аб'яднання "Маладняк". У 1925 годзе захварэў на сухоты і лячыўся ў Крыме. Пасля ўтварэння ў 1926 годзе "Узвышша" становіцца яго сакратаром. З 1926 па 1929 год працуе ў камуністычным універсітэце Беларусі выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. З 1928 года – асістэнт кафедры беларускай літаратуры БДУ.

Літаратурнай працай распачаў Адам Бабарэка займацца рана. Ужо з 1919 года друкаваў вершы і апавяданні. У 1925 годзе выдаў кнігу "Апавяданні". Але больш ён вядомы як крытык. У 20-я гады яго называлі беларускім Бялінскім. Пазней ужо Якуб Колас гаварыў, што Бабарэка чужых думак не пераказваў, свае меў. У сваіх артыкулах ён распрацаваў пытанні літаратуразнаўства і эстэтыкі, даследаваў літаратурны працэс. Яго працы змяшчаліся ў часопісах "Маладняк", "Узвышша", "Чырвоны сейбіт", "Радавая рунь" ды іншых. Ён даследаваў творчасці Я.Коласа, М.Багдановіча, К.Чорнага, У.Дубоўкі, М. Чарота, З.Бядулі і іншых беларускіх пісьменнікаў. Выступаў пад псеўданімамі Адам Чырвоны, Якім Каліна.

Сталінскія рэпрэсіі не абмінулі і яго. У 1930 годзе быў арыштаваны па стандартнаму абвінавачванню. Год правёў у менскай турме. У 1934 годзе быў высланы на Вятчыну. З 1934 ужо жыве ў Вятцы і працуе бухгалтарам. У 1937 годзе зноў арыштаваны і ўжо засуджаны на 10 гадоў лагера. Памёр у лагернай бальніцы 10 кастрычніка 1938 года.

***Язэп Палубятка.***

# Альма Матар Вялікага Княства

**(450-я ўгодкі Віленскага універсітэта)**

Напэўна першапачатковую дату ўзнікнення гэтае навучальнае ўстановы ў яе першапачатковым выглядзе ўжо дакладна не ўстановіць ніхто. Бясспрэчна, вядома толькі вось што: 30 кастрычніка 1579 года езуіцкі калегіум у Вільні афіцыйна набыў статус Акадэміі.

Тут неабходна зазначыць, што гісторыя Віленскага універсітэта, гэтай старэйшай навучальнай установы на абшарах Вялікага княства Літоўскага, мае самае непасрэднае дачыненне да гісторыі нашага краю, цесна звязаны гісторыяй развіцця яго навукі і культуры. Многія тысячы беларускіх хлопцаў набылі тут выдатную адукацыю. Нягледзячы на тое, што і надалей за Акадэміяй працягвалі апекавацца езуіты, свецкія навукі тут выкладаліся на высокім узроўні. Тут жа разам з класічнымі і замежнымі мовамі выкладалася беларуская. Як дзяржаўныя людзі Княства так і знакамітыя магнацкія ды шляхецкія роды ведалі значнасць навукі і таму на працягу шэрагу стагоддзяў аказвалі гэтай навучальнай установе рознабаковую дапамогу. Сапегі і Радзівілы, Валовічы і Агінскія, Тызенгаўзы і Храптовічы выдаткавалі ўласныя грошы, перадавалі бібліятэкі, запрашалі да універсітэта вядомых вучоных. Вось толькі адзін прыклад. Знакамітая Віленская абсерваторыя была заснавана ў 50-я гады ХУІІІ стагоддзя тутэйшым вучоным – астраномам, пазней рэктарам універсітэта Марцінам Пачобутам-Адляніцкім на сродкі Эльжбеты Пузінай з роду Агінскіх.

У 1771 годзе ствараецца Адукацыйная камісія і Акадэмія атрымлівае назву Галоўнай школы Вялікага княства Літоўскага. Яе куратарам становіцца вядомы беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, мецэнат Іахім Храптовіч. У 1803 годзе Галоўная школа стала універсітэтам і цэнтрам Віленскай навучальнай акругі. Акруга тая аб'ядноўвала школы на тэрыторыі ўсёй Беларусі. Гэта давала магчымасць юнакам, што закончылі гімназіі ды школы ў розных губернях, працягваць вучобу ў гэтай навучальнай установе, што тады была адзіная гэтага кшталту ў нашым краі. Прыкладам, у 20-ыя гады XIX стагоддзя студэнты беларускіх губерніяў складалі 80 працэнтаў ад іх агульнай колькасці.

У сценах гэтай навучальнай установы набывалі веды такія знакамітасці як Адам Міцкевіч, Восіп Кавалеўскі, Ігнат Дамейка, Тамаш Зан, Аляксандр Ходзька і іншыя.

***Язэп Палубятка.***

№ 41(426) 13 КАСТРЫЧНІКА 1999 г. Наша слова

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА ЯК ФАКТАР ЯДНАННЯ НАРОДАЎ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ НА БЕЛАРУСІ

## Варшаўскі кангрэс

20 – 25 верасня 1999 года ў Варшаве ў будынку Варшаўскага універсітэта адбыўся II еўрапейскі Кангрэс дыялогу і універсалізму, які арганізаваў Інстытут філасофіі Варшаўскага універсітэта.

Асноўнымі мэтамі Кангрэсу было вызначэнне агульных рысаў універсалізму ў Еўропе і свеце якія выцякаюць з развіцця філасофіі, навукі, гаспадаркі, тэхнікі і культуры, а таксама вызначэнне канкрэтнай гістарычнай, палітычнай і эканамічнай сітуацыі, што склалася ў апошнія дзесяць год у Цэнтральна-Усходняй Еўропе. Вялікую ўвагу Кангрэс звярнуў і на сітуацыю ў сферы адукацыі ў гэтым рэгіёне Еўропы.

На Кангрэсе былі прадстаўлены дэлегацыі з розных краін Еўропы, Амерыкі, Азіі і Аўстраліі.

З Беларусі прысутнічалі прадстаўнікі з Менску, Горадні і Берасця. Уся беларуская дэлегацыя з Менску, а гэта доктар навук, прафесар Юрась Хадыка, кандыдаты гістарычных навук Валянцін Голубеў і Алег Трусаў, кандыдаты філалагічных навук Любоў Уладыкоўская-Канаплянік і Язэп Янушкевіч атрымалі магчымасць выступіць на гэтым вельмі прэзэнтатыўным кангрэсе па-беларуску. (Працоўнымі мовамі кангрэса былі англійская, польская і расейская), зыходзячы з той сітуацыі, што зараз склалася на Беларусі з дзяржаўнай беларускай мовай.

*Алег Трусаў.*

***Ад рэдакцыі: Мы прапануем да ўвагі чытачоў "Нашага слова" даклад старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны Алега Трусава, які прагучаў на Кангрэсе.***



Вытокі беларускай мовы сягаюць у дахрысціянскі перыяд. Упершыню славяне масава з`явіліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў УІІ – УІІІ ст.ст. Спачатку гэта былі крывічы і дрыговічы, а потым у УІІІ – ІХ стст. да іх далучыліся радзімічы і ў невялікай колькасці валыняне. У гэты час ішлі цесныя кантакты з мясцовым балцкім насельніцтвам, у выніку якога і стварыўся новы еўрапейскі этнас са сваёй мовай і самабытнай культурай.

Паколькі славяне мелі больш высокую культуру, чым мясцовыя насельнікі, і іх было шмат, у протабеларускай мове стаў пераважаць усходне-славянскі элемент у яго мясцовай крывіцкай афарбоўцы. І гэта не дзіўна, бо славянскі саюз крывічаў быў самым моцным, і ў Х-ХІ стст. крывічы спачатку стварылі дзве вялікія дзяржавы – Полацкую і Смаленскую землі. Крыху пазней крывічы адыгралі асноўную ролю і ў стварэнні Пскоўскай рэспублікі, якая паступова набыла сваю самастойнасць ад Ноўгарада.

Вялікі ўплыў на беларускую мову, яе ўзнікненне і фармаванне зрабіла хрысціянства, што прыйшло на Беларусь з Візантыі праз Кіеў напрыканцы Х ст.

З гэтых трох крывіцкіх дзяржаў самай уплывовай доўгі час была Полацкая зямля, якая займала тэрыторыю, адпаведную тагачасным Баварыі ці Партугаліі.

Менавіта ў Полацку паўстала першая на нашай зямлі епіскапія і быў збудаваны ў сярэдзіне ХІ ст. першы велічны мураваны храм – славутая Полацкая Сафія. Гэта быў не толькі галоўны храм у краіне, але і першая бібліятэка, месца, дзе зарадзілася старабеларуская літаратура з яе першым узорам – Полацкім летапісам. *(Даследчыкі бачылі яго ў апошні раз у ХУІІІ ст.).*

Сярод тагачасных насельнікаў Беларусі славян і балтаў пашыраецца разам з хрысціянствам і пісьмовасць на аснове "кірыліцы", якая легла ў аснову сённяшняга беларускага алфавіту.

Неўзабаве эстафету Полацка падхапіў старажытны Тураў, дзе склалася свая пісьмовая традыцыя, а потым і Смаленск у канцы Х-ХІ ст. ст. Хвалі ўсходнеславянскай каланізацыі з розных бакоў захліснулі Панямонне, а пасля рэгіён пазнейшай этнаграфічнай Беларусі, дзе кампактна жылі розныя балцкія плямёны. У канцы Х – пачатку ХІ стст. узнікаюць тут гарады Горадня (Гродна), Услонім (Слонім), Навагародак (Навагрудак) і Ваўкавыеск (Ваўкавыск). Крыху пазней на поўдні будуецца Бярэсце (Брэст), а на паўночным захадзе ў ХІ-ХІІ стст. крывічы заснавалі"Крывіч-горад", альбо "Крывы- горад", які пазней атрымаў назоў – Вільня.

У ХІІ ст. на Беларусі плёнца працавалі два вялікія ўсходнеславянскія асветнікі – Еўфрасіння Полацкая і Кірыл Тураўскі, працягваючы традыцыі Кірылы і Мефодзія, першых агульнаславянскіх асветнікаў. На падмурку створанага імі кірылічнага алфавіта і стараславянскай царкоўнай мовы і ўзнікла старабеларуская мова, якая ўжо на той час мела такія ўласцівыя ёй асаблівасці, як "дзеканне" і "цеканне".

У другой палове ХІІ ст. з летапісаў паступова знікаюць згадкі пра былых крывічаў, дрыгавічоў і радзімічаў, і мы ўжо маем справу з прабеларускім насельніцтвам, якое спавядала хрысціянскую (з сярэдзіны ХІ ст. -праваслаўную) веру і займела сваю літаратурную мову.

Адначасова ў вялікіх беларускіх гарадах будуюцца прыгожыя мураваныя і драўляныя храмы, узнікаюць мужчынскія і жаночыя манастыры, пры якіх працуюць ужо школы і ствараюцца рукапісныя кнігі, напісаныя на пергаменце. Умелі нашыя продкі пісаць і на бяросце. Пра гэта сведчаць берасцяныя граматы з Віцебска, Мсціслава і Смаленска.

Старабеларускую мову засвойваюць і карыстаюцца ёю не толькі мясцовыя балты, сярод якіх вылучаюцца латгалы – даннікі Полацка, але і замежныя гандляры. Пачынаючы з ХІІІ ст. Беларусь трапляе ў зону дзейнасці Ганзейскага гандлёвага саюзу, прадстаўнікі якога мелі ў пачатку ХІІІ ст. у Полацку свой мураваны храм Святога Пятра, а ў Смаленску – круглую бажніцу – ратонду, складзеную са старажытнай цэглы – плінфы.

У другой палове ХІІ пачатку ХІІІ ст. бурна развіваецца Смаленская зямля. Вучылі грамаце тут як у манастырах, так і пры княжацкім двары. Летапісцы паведамляюць нам пра адукаванасць кіеўскага мітрапаліта Клімента (разам са Смаленскім) і смаленскіх святароў Рыгора і Фамы. Смаленскі князь Раман стварыў у горадзе спецыяльныя вучэльні, дзе выкладалі настаўнікі з Візантыі і Заходняй Еўропы. Утрымліваліся гэтыя ўстановы за кошт княжацкай казны. Адным з самых вядомых тагачасных кніжнікаў сярод усходніх славян быў манах Аўрамій.

У сярэдзіне ХІІІ ст. беларускія землі, якія амаль не зведалі манголa-татарскай навалы, захавалі сваю высокую культуру і мову, што неўзабаве запанавалі ў новай беларуска-літоўскай дзяржаве – Вялікім Княстве Літоўскім. Новая сталіца Беларусі ХІІІ ст. горад Наваградак быў адным з самых багатых і культурных гарадоў усходняй Еўропы. Пры спрыянні вялікіх князёў літоўскіх пашырылася беларуская мова, пісьменства і праваслаўе. Так, напрыклад, адзін з вялікіх князёў літоўскіх Войшалк заснаваў у ваколіцах Наваградка славуты Лаўрышаўскі манастыр.

У другой палове ХІІІ і ХІУ стст. на тэрыторыі Еўропы існавалі дзве краіны, дзе старабеларуская мова была дзяржаўнай. Гэта – Вялікае Княства Літоўскае і Вялікае Княства Смаленскае.

У ВКЛ, дзе з ХІУ ст. сталіцай стаў горад Вільня, старабеларуская мова стала не толькі дзяржаўнай, але паступова, разам з латынню і верхненямецкай – мовай міждзяржаўных зносін, якую ў дыпламатычнай перапісцы выкарыстоўвалі і іншыя суседнія краіны, напрыклад, княства Валахія (сённяшняя Малдова).

З ХІУ па ХУІ ст.ст. старабеларуская мова была мовай міжнацыянальных зносін не толькі розных плямянных насельнікаў Вільні (беларусы, літоўцы, яўрэі, немцы, а пазней і палякі), але і мовай вялікакняскага двара.

У гэты час па запрашэнні князя Вітаўта і яго паслядоўнікаў на Беларусь масава перасяляюцца яўрэі і татары.

Яўрэі, якія перасяляліся ў ВКЛ пераважна з тэрыторыі Германіі, размаўлялі паміж сабой на мове ідзіш, вельмі блізкай да нямецкай. Аднак на працягу ўсяго свайго існавання, да пачатку Вялікай Айчыннай вайны 1941 г., усе мясцовыя яўрэі цудоўна валодалі беларускай мовай, а некаторыя з іх, напрыклад, Самуіл Плаўнік (Змітрок Бядуля) нават сталі класікамі беларускай літаратуры.

Беларускія татары, якія ў асноўным бралі ў жонкі беларускіх дзяўчат і жанчын, наогул у ХУІ ст. страцілі сваю мову і перайшлі цалкам на беларускую, але захавалі пры гэтым сваю рэлігію – іслам. Свае святыя кнігі "Аль-Кітабы" яны сталі пісаць па-беларуску, але арабскімі літарамі, што дазволіла навукоўцам дакладна сцвярджаць аб наяўнасці ў беларускай мове ХУІ-ХУІІ стст. гукаў "Дз" і "Дж", для перадачы якіх на пісьме ў арабскай мове існуюць спецыяльныя літары.

Добра ведалі беларускую мову і насельнікі Аўкштайціі і Жмудзі, дзе яна была дзяржаўнай, мовай перапіскі, суда і вайсковай справы.

У ХУІ-ХУІІ стст. у сталіцы ВКЛ Вільні існаваў цэлы "Нямецкі квартал", жыхары якога заўжды ў штодзённым побыце карысталіся ў гутарцы з мясцовымі жыхарамі беларускай мовай.

Дасягнула свайго росквіту старабеларуская мова ў гэтыя часы і на тэрыторыі Смаленшчыны. У першай трэці ХІУ ст. тут ствараецца Аршанскае Евангелле. Прыканцы ХІУ ст. у Смаленску Лука Смалянін напісаў Псалтыр, рукапісную кнігу, аздобленую 175 малюнкамі-мініяцюрамі. Да нас дайшлі таксама апісанні вандровак смаленскіх манахаў і святароў канца ХІУ ст. у Палесціну і Візантыю.

У ХУ ст. Смаленская дзяржавав ўвайшла ў склад ВКЛ і Смаленск стаў адным з самых значных цэнтраў беларускага летапісання. У канцы ХУ ст. пры двары смаленскіх епіскапаў манах Аўраамка склаў велізарны летапісны зборнік (450 старонак), які пазней атрымаў назву "Летапіс Аўраамкі". Аднак найвыбітнейшым шэдэўрам смаленкіх летапісцаў ХУ ст. з'яўляецца славуты Радзівілаўскі летапіс, аздоблены больш чым 600 цудоўнымі малюнкамі.

Да канца ХУ ст. працэс фармавання тэрыторыі беларускага этнасу, яго мовы і культуры канчаткова завяршыўся. З таго часу паходзяць несмяротныя творы Франціцшка Скарыны. У 1588 г. Леў Сапега ў Статуце ВКЛ афіцыйна абвясціў беларускую мову дзяржаўнай. Беларусы маглі ганарыцца, што яны ***"не обчим яким языком, але своим власным права списания мають".***

Апошні росквіт беларускай мовы, як сродку міжнацыянальных зносін, у перыяд сярэднявечча назіраецца ў першай палове ХУІІ ст. Па-беларуску гавораць горад і мястэчка (шматлікія гандляры і рамеснікі), пішуцца магістрацкія кнігі і службовыя паперы. Па-беларуску працуе ў штодзённай практыцы і беларуская ўніяцкая царква, якая паўстала ў 1596 годзе.

Аглушальны ўдар беларускай мове і культуры наносіць жахлівая вайна з Маскоўскай дзяржавай (1654-1667 гадоў), калі фізічна знішчаецца або вывозіцца ў рускі палон беларуская інтэлігенцыя, духавенства, шляхта і шматлікія рамеснікі, якія добра ўмелі дагэтуль чытаць і пісаць. Ацалелае неадукаванае сялянства ўжо не змагло захаваць літаратурную мову і дзяржаўнай мовай ВКЛ пасля 1696 года паступова становіцца польская.

Пасля захопу беларускіх земляў Расіяй, асабліва пасля задушэння паўстанняў 1830-1831г.г. і 1863-1864 г.г. паланізацыя на Беларусі змяняецца татальнай русіфікацыяй, і беларуская мова ў яе літаратурнай форме практычна да 1905 г. знаходзіцца пад забаронай.

Новая хваля адраджэння, стварэння і развіцця новабеларускай мовы і літаратуры прыпадае на канец ХІХ і ХХ стст. і працягваецца да нашых дзён, нягледзячы на шматлікія войны, рэвалюцыі, рэпрэсіі і надзелы этнічнай беларускай тэрыторыі на кавалкі паміж суседнімі краінамі.

У 1989 г паўстала грамадская арганізацыя "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", якая аб'яднала грамадзян Беларусі і іншых краін свету розных нацыянальнасцяў, палітычных поглядаў і веравызнанняў у адзіныя шэрагі змагароў за захаванне і адраджэнне беларускай мовы як дзяржаўнай на Беларусі.

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны ўтварылася ў 1989 годзе як рэспубліканская грамадская арганізацыя.

Найвышэйшай мэтай стварэння і сэнсам дзейнасці Таварыства з'яўляецца аднаўленне ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як да нацыянальнай святыні, адраджэнне на яе аснове гістарычнай памяці, традыцыйнай культуры нашага народа і пабудова на нацыянальным грунце дэмакратычнага грамадства.

Ініцыятарамі стварэння ТБМ выступілі: Саюз пісьменнікаў Беларусі, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН РБ, Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы НАН РБ, Беларускі фонд культуры, Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку, Таварыства "Радзіма", Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь.

На працягу сямі гадоў Таварыства ўзначальваў Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. У 1997 годзе старшынёй ТБМ абраны паэт Генадзь Бураўкін. 17 красавіка 1999 года УІ з'езд абраў старшынёй Алега Трусава.

Структуры ТБМ працуюць ў 62 населеных пунктах Беларусі, а таксама ў Маскве, Іркуцку, Вільні, Пецярбурзе, Рызе. На 20 ліпеня 1999 года ТБМ налічвае 4322 актыўных сяброў і каля 10000 прыхільнікаў. Асноўнай крыніцай фінансавання арганізацыі з'яўляюцца сяброўскія складкі ўдзельнікаў ТБМ і дабраахвотныя ахвяраванні яго прыхільнікаў.

Сябрамі Рэспубліканскай рады ТБМ у свой час з'ўляліся: Максім Танк, Барыс Сачанка, Фёдар Янкоўскі. Актыўна працавалі ў ТБМ Васіль Быкаў, Янка Брыль, Міхаіл Дзямчук, Анатоль Бутэвіч, Тамара Саўчук, Яўген Вайтовіч, Зянон Пазьняк, Юры Хадыка, Алег Лойка, Адам Мальдзіс, Артур Вольскі, Анатоль Клышка, Вячаслаў Адамчык. Сёння ў складзе Рэспубліканскай рады вядомыя дзеячы навукі , мастацтва і культуры: Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Генадзь Цыхун, Радзі Гарэцкі, Васіль Зуёнак, Вольга Іпатава, Уладзімір Арлоў, Валянціна Аксак, Леанід Лыч і іншыя.

*(Заканчэнне на 6-ай старонцы.)*

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА ЯК ФАКТАР ЯДНАННЯ НАРОДАЎ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ НА БЕЛАРУСІ

*(Працяг са ст. 4)*

За дзесяць гадоў арганізацыя правяла вялікую работу па адраджэнні беларускай мовы ў дзяржаўным, грамадскім і духоўным жыцці народа. ТБМ пры-няло ўдзел у падрыхтоўцы ў 1990 годзе Закона "Аб мовах у Беларускай ССР", арганізацыю кантролю за выкананнем Закона, у стварэнні "Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусь" (1991). 13 сяброў ТБМ былі абраныя дэпутатамі Вярхоўнага Савета XII склікання (1990-1996гг.), каля 100 – дэпутатамі мясцовых Саветаў.

Таварыствам выдадзена больш за 20 кніг мастацкай, навуковай, навукова-папулярнай, асветніцкай літаратуры: "Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва" М.Шчакаціхіна, "Пачаткі роднае мовы" В. Раманцэвіч, "Геаграфія Беларусі" А.Смоліча, тэрміналагічныя слоўнікі па фізіцы, вышэйшай матэматыцы, заапаразіталогіі, бытаніцы і інш. З сакавіка 1990 года пачала выходзіць газета ТБМ "Наша слова". Апошнія два гады газета выходзіць толькі на грамадскіх пачатках за грошы грамадзян. Зараз наклад нашага штотыднёвіка 3500 асобнікаў.

Праведзены шэраг канферэнцый па праблемах беларускай мовы: "Мова нацыі – мова дзяржавы" (1990 г.), дзве Нацыянальныя канферэнцыі па праблемах беларускай тэрміналогіі, праведзеныя сумесна з Міністэрствам адукацыі (1994,1995 г.г.).

Пры ТБМ дзейнічае 9 камісій: арганізацыйна-прапагандысцкая, адукацыйная, тэрміналагічная, па культуры мовы і ўдасканаленні правапісу, па тапаніміцы і гістарычнай сімволіцы, па моўных скарбах, па зрокавым і гукавым афармленні жыццёвага асяроддзя, па сувязях за межамі краіны, выдавецкая.

У абарону беларускамоўнага навучання, у падтрымку стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта, а таксама ў падтрымку газеты "Наша Ніва", Беларускага гуманітарнага ліцэя ў Менску за два апошнія гады праведзена 23 пікеты і 3 мітынгі. Міністру адукацыі Васілю Стражаву перададзена 7.000 подпісаў з патрабаваннем адкрыцця ў Беларусі Беларускага нацыянальнага універсітэта. Збор подпісаў працягваецца, і на 19 ліпеня 1999 года сабрана яшчэ каля 4000 подпісаў. Створана ініцыятыўная група па распрацоўцы Палажэння аб дзейнасці і Статута Беларускага нацыянальнага універсітэта.

ТБМ сабрала каля 800 подпісаў у абарону назвы праспекта Ф.Скарыны ў Менску, якую хацеў адмяніць А. Лукашэнка.

Таварыства працуе па праграме падтрымкі беларускамоўных класаў і школ, прапагандзе роднай мовы і культуры. У рамках праграм падтрымкі беларускамоўных класаў, школ, ВНУ выдадзена бязвыплатна каля 5 тысяч асобнікаў кніг для рэгіянальных структур і суполак ТБМ, а таксама для вясковых, школьных і раённых бібліятэк. Некалькі соцень беларускіх кніг у верасні 1999 г. атрымалі дзеці мінскіх рабочых з малазабяспечаных сем'яў.

Сумесна з Менскай гарадской Радай ТБМ праведзены 2 конкурсы: "Беларусь маімі вачыма" (усяго 56 работ, 10 пераможцаў) і "Беларусь – наш дом у XXI стагоддзі" (ўдзельнічалі дзеці ад 6 да 16 гадоў – усяго 600 работ).

Таварыства брала ўдзел у правядзенні конкурсу "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945-1965", які быў арганізаваны Архівам Най-ноўшай Гісторыі і падтрыманы Цэнтрам KARTA (Варшава), Фундацыяй Стэфана Баторага (Варшава). Вынікі конкурсу і лепшыя работы надрукаваны ў асобнай кнізе.

Нядаўна старонка ТБМ з'явілася ў віртуальнай прасторы Інтэрнэта: http://tbm. org.by/. У бліжэйшы час яна будзе перакладзена на англійскую, рускую і іншыя замежныя мовы.

Працягваецца збор фактаў аб парушэннях лінгвістычных правоў у Рэспубліцы Беларусь. Справаздача аб парушэннях правоў размешчана на старонцы ТБМ у Інтэрнэце: http://tbm.org.by/mova/mova 99. htm. Падрыхтавана да друку кніга пад назвай "З хронікі знішчэння беларускай мовы".

Разасланы ліст-запыт грамадзян Беларусі, адрасаваны рэктарам усіх дзяржаўных і недзяржаўных ВНУ (57) па праблемах захавання беларускай мовы ў сістэме вышэйшай адукацыі. Атрымана 28 адказаў.

У верасні 1999 г. пры кніжным клубе ТБМ адкрыта бібліятэка для сяброў ТБМ і падпісчыкаў "Нашага слова".

Праведзена больш за 30 паэтычных "купалаўскіх" сустрэч са знакамітымі майстрамі беларускага слова: Н.Гілевічам, В.Зуёнкам, М. Аўрамчыкам, С. Грахоўскім, С. Законнікавым, А. Вярцінскім, Л.Дранько-Майсюком, М. Мятліцкім, А. Лойкам, А. Пісьмянковым, В. Іпатавай, М. Маляўкам, удзельнікамі літаратурнага аб'яднання з Узды, фальклорным гуртом "Тутэйшая шляхта" і інш.

ТБМ брала ўдзел у кантролі за ходам перапісу насельніцтва ў лютым 1999 года. Зафіксавана больш 120 парушэнняў. У сувязі з гэтым 26 сакавіка 1999 года на Рэспубліканскай радзе Таварыства была прынята заява, апублікаваная ў дэмакратычнай прэсе.

6 верасня 1999 г. грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" і яго сімволіка прайшло перарэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

***Старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны, дацэнт, кандыдат гіст. навук Алег Трусаў.***

# *Абразкі ад Уладзіміра Содаля*

## БЕЛАРУСЬ І РАСІЯ ЦІ РАСІЯ І БЕЛАРУСЬ?

З няўрымслівай ініцыятывы сп. Лукашэнкі робіцца спроба стварыць якуюсь новую суполку дзвюх дзяржаў, дзвюх краінаў. А вось якая назва будзе гэтай супольнасці ў Беларусі і Расіі, няма адной думкі, аднаго вызначэння. Паводле расійскага друку, расійскіх дзяржаўнікаў – гэта саюз Расіі і Беларусі. Паводле ж прыхільнікаў Лукашэнкі – гэта саюз Беларусі і Расіі. І напраўду, назву якой дзяржавы трэба ставіць у такім утварэнні на першае месца? Паводле ўсёй логікі на першым месцы павінна стаяць назва Беларусі.

Гэтага, па-першае, вымагае алфавіт, а па-другое, ініцыятыва стварэння супольнасці ідзе ад спадара Лукашэнкі. Ці пагодзіцца на гэта Расія? Ей жа, як вялікай дзяржаве, хочацца і тут быць на першым месцы. Але ж, як сказаў сп. Лукашэнка, чаму гэта Расія далучае да сябе Беларусь. Гэта Беларусь далучае да сябе Расію. І з гэтай нагоды ў назве супольнасці дзвюх дзяржаў з усіх меркаванняў на першым месцы павінна стаяць назва Беларусь. Гэта вымагае і павага да алфавіту. Такім чынам, супольнасць, калі яна адбудзецца, павінна мець назву Саюз Беларусі і Расіі. Калі ж будзе інакш, то гэта трэба ўспрымаць, як залежнасць Беларусі ад Расіі, як верхавенства Расіі, а не суполку роўнага з роўным.

Ці ж гэта не так? А пакуль пішуць, як каму хочацца: у Расійскім друку пішуць: Союз России и Белоруссии, а ў Мінску – Союз Беларусі і Расіі.

Але ж гэтак вечна не будзе, не павінна быць. Павінна быць назва адна: "Саюз Беларусі і Расіі". Толькі так. А не іначай... А лепш было б, каб кожная краіна жыла сваім жыццём, жыла па-суседску, каб ладзілі адна з адной, дапамагалі адной, паважалі адна адну і памяталі, што дзве славянскія краіны – гэта лепей, чым адна.

Лепей і для Расіі, і для свету. А чаму – гэта тлумачыць не трэба. Гэта патрэбна хаця б з тых меркаванняў, з якіх калісь абвяшчалася Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. І не толькі з гэтых. У Беларусі свая гістарычная місія, і яна павінна яе здзяйсняць як самастойная і незалежная дзяржава, а не раствораная ў нейкай новай саюзнай суполцы. Гэта павінна нарэшце зразумець і ў Расіі, у самой Беларусі і даць нашай краіне хоць раз пражыць пэўны гістарычны адрэзак часу паўнацэнна, як пражылі яго іншыя краіны. Якраз, здаецца, такі час настаў. То скарыстай ма яго! Не марнуйма яго! Не забівайце голавы людзям сваімі рознымі палітычнымі праэктамі.

Дайце ім проста пачалавечы пажыць! Ці ж я няпраўду кажу? Паміж іншым, а як будзе з нашай мовай у гэтым Саюзе? Ці будзе яна гучаць у Расіі гэтак вольна і шырока, як гучыць руская на Беларусі: па радыё і тэлевізіі? Ці будзе Расія папулізаваць нашыя песні, як папулізуе Беларусь расійскія? Ці будуць у расійскіх школах вывучаць беларускую мову, як мы вывучаем рускую? Калі не, то што гэта за саюз, што гэта за братэрства? Што гэта за славянства? Што гэта за збліжэнне? Што гэта за еднасць?

А як жа любяць гэтыя "соеднинялыники" гавараць, што беларусы і расейцы аднаго кораня, аднаго вытоку, аднаго менталітэту. А вось спазнаваць гэтыя карані, гэтыя вытокі не жадаюць. Ды не проста не жадаюць, а ваююць як з азіятчынай якой! Гэта ў нармальны розум аніяк не ўкладваецца.

## НАЙМЕНШ ЗМЕНЕНАЯ

Гэтак казаў пра нашу мову вялікі пясьняр нашага краю Адам Міцкевіч. І ён ведаў, што казаў. Былі ў яго доказы на гэта, шкада толькі, што яны да нас не дайшлі. Але паспрабуем самі на канкрэтных прыкладах падмацаваць гэтае азначэнне, раскрыць яго. Возьмем найбольш яскраваыя словы. Возьмем наша свяціла – Сонца і царыцу-ягаду суніцу. Гэтыя словы, як высвятляецца, у нашай мове аднаго кораня, аднаго вытоку. І гэта надзвычай цікава! Сонца і суніца! Якая магутная, проста касмічная повязь! У рускай мове такой еднасці паміж згаданымі паняццямі няма. У рускай мове, як вядома, нашы суніцы называюцца празаічна – "земляника", у польскай – "паземкі". А ў нас і сонца і суніца маюць адзін выток, адзін корань. Ці яшчэ цэлае гняздо жыццёва важных слоў: жыта, жывот, жывёла, жыць, жыўнасць, жытло, жыцень...

Прачытаеш такое гняздзечка слоў -- і адразу ўсё кожнаму зразумела. Жыта – гэта тое, што жывіць чалавека, што дае яму жыццё. Жывот спажывае жыта, каб усё жывое жыло. А вось у рускай мове зноў такой празрыстай повязі між гэтымі словамі няма. Жыта ў іх – гэта "рожь", жывёла – гэта "скотина". Так што толькі на гэтых прыкладах бачым, што Адам Міцкевіч казаў вялікую праўду – наша мова з усіх славянскіх моў найменш зmененая.

Згадаем яшчэ колькі прыкладаў. Мы, беларусы, кажам далонь. Расійцы гэтую, частку рукі называюць "ладонь". Мала што так называюць, дык яшчэ дакараюць нас, беларусаў, што мы калечым словы. А ці справядлівы гэты дакор?! Далонь – аднаго корня са словам ***дол***. А дол – гэта ніз чаго-небудзь: дол, падол, даліна... То цікава, хто з нас калечыць словы?! Ці вось яшчэ. Беларусы кажуць: "талерка". Расейцы гэты посуд называюць "тарелка". А слова "телерка" ад слова "талер" – "увагнутая манета". Слова "талерка" пазычанае, але яно ў нас больш-менш дакладна перадае гэтую пазычанасць. Шмат якія словы нашай мовы і расійскай хоць і гучаць аднолькава, але маюць розныя роды. Гэтыя словы, спадзяюся, вы ўсе ведаеце. І ўсё ж некаторыя з іх нагадаю: шынель, медаль, цень, мазоль, сабака...

У рускай мове ўсе гэтыя словы жаночага роду. У беларускай – мужчынскага. Ці думалі вы хоць калі, чаму так? Жывуць побач два родасныя народы, карыстаюцца родаснымі мовамі, але ў кожнага з іх свае афарбоўкі тых жа слоў. Як гэта ўсё сталася? Якая мова больш дакладна, больш лагічна перадае род згаданых слоў?

Як мне думаецца, дык беларуская. Чаму? Возьмем слова "шынель". Яно ў нас мужчынскага роду. І гэта зразумела чаму? "Шынель" – гэта вопратка воіна, мужчыны. Таму – "шынель" чый? – Мой, а не мая... І медалі калісь найбольш і найперш мужчынам перападалі. А вось прыклад з нашага сінтаксісу. Па-руску кажуць: "Женился на Оле". Адчуваецца: у гэтым выразе перавага мужчыны над жанчынай. А па-беларуску гэта гучыць: "Жаніўся з Вольгай". Гэта як роўны з роўнай.

Я згадаў толькі некалькі прыкладаў на доказ думкі Адама Міцкевіча, што беларуская мова адна з самых гарманічных са славянскіх моў найменш змененая. Але кожнаму з вас даецца мажлівасць сваімі назіраннямі гэтае Міцкевічавае азначэнне падмацаваць, канкрэтызаваць яго. Чакаем вашых прыкладаў, якія пасведчаць, што наша мова з усіх славянскіх моў найменш змененая.

## ТАТА

Прыкмеціў: шмат каму на Беларусі не вельмі смакуе наша слова "тата". Яно ім здаецца занадта заземленым, сялянскім прастакаватым. Яны нібыта яго саромеюцца. А калі і вымаўляюць, то азіраюцца, ці не пачуў іх хто. Іхняму вуху больш мілае слова "папа". І гэтая іхняя "сарамлівасць" перадаецца і іхнім дзецям. Яны сваіх татаў называюць толькі "папай". І гэта мала каго бянтэжыць. І што асабліва трывожна –бракуюць гэтым словам і шмат у якіх сем'ях нашых пісьменнікаў, актораў. Я не адзін раз быў сведкам, калі дзеці беларускіх пісьменнікаў называлі і называюць сваіх татаў "папамі". Шчымела маё сэрца, крывёю аблівалася! Думалася: "Божа, мой божа! Як жа гэта трэба так апусціцца! Як гэтак можна так саміх сябе не паважаць! Для мільёнаў нашых продкаў слова "тата" было самае дарагое і паважлівае, як і "мама". Тысячы гадоў дзеці называлі аднаго са сваіх родзічаў гэтым ласкавым словам – тата, татка, татачка, татулька, татулечка, татусь – і нікому ў галаву не прыходзіла, што гавораць нягожа. Але вось жа, дажыліся!..."

Але што я мог, магу зрабіць?! Хіба прысароміць? Але каго? Хто-хто, а пісьменнікі ведаюць, што слова "тата" шануюць амаль ці не ўсе славянскія народы, што яно з праславянскай пары. Ад яго і словы "татальны", "татальнасць" дый шмат якія іншыя. Ведаць-ведаюць, а вось жа ўжо не маюць адвагі навучыць сваіх дзяцей, каб тыя тытулавалі іх гэтым словам. Але чаму?

... Гадоў з дзесяць, а мо і болей, як я лістуюся з малодшай дакою Язэпа Лёсіка Алесяй. І што я заўважыў. Пішучы свае лісты па-расейску, яна адно слова ў гэтых лістах заўсёды пісала і піша з вялікай літары і па-беларуску. І гэтае слова якраз "Тата". Гэта мяне вельмі ўразіла. Аднойчы я пацікавіўся, як і чым гэта патлумачыць?

Хоць я і сам разумеў, адкуль гэта ідзе, а ўсё ж цікава было паслухаць, як пра гэта раскажа сама Лёсікава.

І вось што я пачуў. Гэтага найперш хацеў сам Язэп Лёсік. Гэтаму ён вучыў дзяцей з малых гадоў. гэта дзецям прывілося як норма на ўсё жыццё. І вось цяпер яны, ягоныя дзеці, ужо сталыя людзі, моцна згараваныя, інакш і не могуць называць свайго тату як Татам. Не бацькам ці яшчэ як, а толькі Татам.

Нават сваю перадсмяротна развітальную цыдулку з астрогу Язэп Лёсік напісаў па-расейску, таксама скончыў гэтым святым словам – "Тата": Живите сами, без меня. Ваш Тата..."

А што ж нам замінае прывіваць такую павагу да слова "тата" сваім дзецям, якую прывіў у свой час, у сваю пару ўсёй сваёй сямейцы Вялікі пакутнік за беларускае слова, за беларускую ідэю, Язэп Лёсік?

# Жывая кніга прыроды

**Для педагогаў дашкольных устаноў**
**Укладальнік Ірына Марачкіна**

### ВОСЕНЬ. КАСТРЫЧНІК.

Кастрычнік. Назва месяца паходзіць ад слова "кастрыца". У час нашы продкі церлі ды трапалі лён, з якога ападала шмат кастры.

Дні становяцца карацейшымі і халаднейшымі.

Працягваецца лістапад.

Адлятаюць у вырай гракі, шпакі, дразды.

Заканчваецца лінька пушных звяроў.

Грыбнікі ведаюць, што ў кастрычніку свае зімовыя запасы можна папоўніць зялёнкамі і падзялёнкамі, радоўкамі.

14 кастрычніка – вялікае старажытнае земляробчае свята Пакровы.

Народная мудрасць кажа: прышлі Пакровы, пытаюць: ці да зімы гатовы. На Пакровы заганяйце ў хлеў каровы.



### КАСТРЫЧНІК

Ад дрэва да дрэва ідзе пехатой
Кастрычнік, мастак адмысловы,
І фарбай бурштынавай і залатой
Малюе лісточкі ў дуброве.
Зірні: ён і сам, адступіўшы на крок,
Глядзіць на абсяг маляўнічы,
І робіць апошні агністы мазок,
І подпіс выводзіць: Кастрычнік!

*Алег Мінкін*

### ВОСЕНЬ ДРЭВЫ ПАДПАЛІЛА

Свеце брат сказаў Даніла:
- Восень дрэвы падпаліла.
І яна, каб праверыць…
Пэўна, здагадаўся вецер.
Што лісток патрэбен Свеце.
Ён дыхнуў – і з шапкі клёна
Ліст упаў, як жар, чырвоны.
Яго Света падымае,
Ён… халодны, а палае.

*Паўлюк Прануза*

### ЛІСТАПАД У ЛЕСЕ

Стракатыя дрэвы і хмызнякі паволі скідаюць свой асенні ўбор. Вось адзін лісцік вінцікам ляціць з жоўтай бярозкі. Другі – валікам па паветры коціцца. І чым бліжэй да зямлі, тым усё паскарае і паскарае абароты. Трэці – стракатым матыльком пырхае над парыжэлай травою, доўга выбіраючы месца, дзе б апусціцца. А гэты, буры, лёгкай птушкай пераляцеў прасторную палянку і паволі прысеў пад чырвоным кустом брызгліны.

З розных дрэў па-рознаму лісце ападае. Лісце кляновае парашуцікамі апускаецца ўніз. Іншы раз нават з парашутыстам на канцы чаранка – павучком якім-небудзь альбо мошкай.

Так няма двух лістоў, якія б аднолькава падалі. Колькі б іх ні было ў лесе, кожны па-свойму з асенняй зямлёю сустракаецца.

*Рыгор Ігнаценка*

### ЧАГО ДОЖДЖЫК ІДЗЕ

Жураўлі па-над лясочкам
Ляцяць роўненькім шнурочкам;
Мама ж кажа мне, што гэта
Адлятае ад нас лета.
І цяпер мне зразумела,
Чаго дождж ідзе дзень цэлы:
Гэта лета, не іначай,
Па дзяньках вясёлых плача.

Іван Шуцько

### КАСТРЫЧНІК

Кастрычнік барвою
Прыбраў
Дубы, асіны
І рабінкі;
Лісты ён з дрэў
Параскідаў
На ўзлескі,
Вузкія сцяжынкі.

Хмурліва, зябка
Па начах,
Цярусіць дождж
Нібы праз сіта.
Пажоўклі травы
На палях,
І толькі
Зелянее жыта.

Ды часам
Выпадуць дзянькі…
Блакіт і сонца.
Ранак звонкі.
І разам з Янкам
Хлапчукі
Ідуць у лес
Збіраць зялёнкі.

*Авяр'ян Дзеружынскі*

### ВОСЕНЬ У ЛЕСЕ

То загамоніць лес тужліва,
То стане ціха і маўкліва.
Працуе тут мастачка-восень,
А вецер фарбу ёй падносіць.
Адзін мазок, другі і трэці –
І жоўты ліст гайдае вецер.
Дабавіць фарбы бурачковай –
І ліст трапечацца барвовы.

Працуе восень пэндзлем тонкім,
Абходзіць елкі і сасонкі;
Як дакранецца да іх толькі –
Балюча колюцца іголкі.
Бярозак тонкія галінкі
Скідаюць жоўтыя хусцінкі,
І кружыць, гушкае іх вецер…
Сумуе лес па звонкім леце.

*Ніна Галіноўская*



### АСЕННЯЯ ЦІШЫНЯ

Лісты падаюць… Жоўтыя, чырвоныя, барвовыя… Як вялікія птушкі – кляновыя, каштанавыя, ясеневыя – яны танцуюць свой апошні вальс: паціхеньку кружацца, плаўна апускаюцца долу. Лёг… і прыціх… Цішыня. Асенняя залатая цішыня. Здаецца, цішыня… А на самой справе – звіняць ціхенька, ледзь-ледзь чутна ды такой цудоўнай мелодыяй. Толькі б навучыцца слухаць. Слухаць затоены, ціхі, крыху сумнаваты напеў, асенні напеў самой цішыні. А яна, цішыня, таксама пяе. Своеасаблівa, толькі прыслухацца трэба, і пачуеш…

Рабіна… рабінaчка… Уся гарыць, палае пунсовымі гронкамі-цяпельцамі… Здаецца, вось-вось перагарыць галінка, і зваліцца тады агонь на зямлю і пабяжыць па сухой траве… Ды не. Нікуды не ўпадуць рабінавыя ягодкі і нікуды не знікнуць. Будуць чакаць першага марозу, падмарожаныя, стануць яны смачныя, прывабныя і для людзей, і для птушак… Надзейны паратунак ад голаду.

Зусім не за гарамі сцюжа, халады, паваротак на зіму. А пакуль дыхае прырода восенню, пераплеценай з летам, шматфарбавай, толькі ціхай. Але ж і цішыня бывае гучыць… Нават зліваецца ў адзін зык, у адну восеньскую мелодыю і жыве, падаўжае жыць…

*Наталля Суслава*

### ЖОЛУД

Зімка ўжо
Не за гарамі.
Зайчанятькі
Кажуць маме:
—З дуба ўпаў вунь
Жалудок,
Абмарозіць можа
Бок.
Засмяяўся
Жалудок,
Пад лісток у траўку —
Скок…
Зімку спаў ён
Пад лістком
І ўзышоў вясной
Дубком.

*Лявон Шырын*

## Давайце спяваць па-беларуску

### Не ківай галавой

*Музыка А. Кішкіна, З. Сідаровіча, І. Войніча;*
*Словы З. Сідаровіча, А. Кішкіна*

*G C D G C D*

*G C D*
Не ківай галавой,
*G C D G*
Што пакрыла іржа панцыр мой
*C D*
Стомлены шчыт прытуліць да сцяны
*G C D G*
У хаце тваёй дай герою гаротнай вайны.

*Em C D Em C D G*

Вочы твае агня гарачэй,
Дазволь пагрэцца пасьля
сцюдзёных начэй.
Вусны твае поўны сокам вясны,
Дазволь жа напіцца пасьля
стогадовай вайны.

*G C D G C D Em D Em C D Em D C D G C D G C D G*

Шчыт ля сценкі прыціх,
Піў я соладка з вуснаў тваіх.
Дай, хмель, у галаву,
Сьцеле пасцель тая мне, каго любай заву.

### Ясна панна мая

*Музыка і словы З. Сідаровіча*

*E Fm*
Ясна панна мая, сонцу час прачынацца,
*H E*
Ды ня ведаю я, як з табой мне растацца!
*Fm*
Ява бынцам у сьне, маё сэрца кахае
*H E*
І на крылах імкне да цябе, дарагая.

Горы рассыплюцца ў порах,
Сонца пакрыецца чорным,
Зоры сарвуцца зь нябёсаў,
*Fm*
Буду я голы ды босы,
Зьнікнуць гады як хвіліны,
Розпае стане адзіным,
*H*
Золатам зробіцца сьмецце,
*E*
Усё памяняецца ў сьвеце –
Толькі не зьнікае,
*Fm*
Будзе ў сэрцы гэта песьня.
Наша зорка зноў зазьзяе,
*H E*
Наша сонца ўваскрэсьне!

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*
Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 11. 10. 99 г.
Наклад 3300 асобнікаў. Замова № 2797
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 60 000 руб., 3 мес.- 180 000 руб.
*Кошт у розніцу:* 20 000 руб.